Менск,
2015





ПРАПАНОВЫ АСАМБЛЕІ НЯЎРАДАВЫХ ДЭМАКРАТЫЧНЫХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ БЕЛАРУСІ

# АДУКАЦЫЙНАЯ ПАЛІТЫКА



# УВОДЗІНЫ

У апошнія гады небясьпечна зьменшыўся і надалей зьніжаецца агульны ровень адукаванасьці школьнікаў ды іншых навучэнцаў, зьнізіўся статус пэдагога ў грамадзтве. Сфэра ўжываньня беларускае мовы ў адукацыі штучна звужаная да роўню, які не забясьпечвае самаўзнаўленьня колькасьці носьбітаў літаратурнай мовы; сыстэматычна абмяжоўваюцца магчымасьці нацыянальнага самапазнаньня і самаідэнтыфікацыі маладых грамадзянаў.

Адукацыйныя рэформы праводзяцца несыстэмна, ня маюць навуковага грунту, не абапіраюцца на міжнародны і лепшы беларускі досьвед. Нацыянальная адукацыя ня толькі не наблізілася да сусьветных стандартаў, а зрабіла значны крок назад ад сваіх ранейшых заваёваў і адукацыйных дасягненьняў бліжэйшых суседзяў.

Замест сутнаснай рэформы адукацыйныя ўлады і заканадаўцы пэрыядычна робяць папулісцкія захады, не скіраваныя на кардынальнае і сыстэмнае вырашэньне адукацыйных праблемаў.

***Для абмеркаваньня пералічаных праблемаў арганізацыі грамадзянскай супольнасьці, экспэрты, зацікаўленыя пэдагогі, студэнты і бацькі навучэнцаў пры падтрымцы Асамблеі няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў Беларусі правялі шэраг круглых сталоў, вынікам якіх стаў гэты аналітычны дакумэнт.***



# АДСУТНАСЬЦЬ У БЕЛАРУСІ ДЗЯРЖАЎНАЙ АДУКАЦЫЙНАЙ ПАЛІТЫКІ ДЫ ЯЕ НАСТУПСТВЫ

Дзяржаўнай адукацыйнай палітыкі як матываванай дзяржаватворчымі мэтамі стратэгіі і адпаведнай тактыкі яе зьдзяйсьненьня ў Беларусі няма.

Гэтая катэгарычная на першы погляд заява грунтуецца на аналізе дзяржаўных захадаў у галіне адукацыі.

Цягам апошніх 20 гадоў адукацыйная сфэра Беларусі зазнала тры генэральныя рэформы і мноства партыкулярных. Яны былі абумоўленыя каньюнктурнымі, папулісцкімі й фінансавымі матывамі, а таму скіраваныя ў процілеглыя бакі: ***скасаваньне профільнага навучаньня —***

***яго частковае аднаўленьне; скарачэньне навучаньня замежным мовам — частковае вяртаньне навучальных гадзін; перавод выкладаньня гісторыі і геаграфіі Беларусі на беларускую мову ў расейскамоўных школах — абяцаньне вяртаньня да гэтай практыкі — адклад рашэньня*** і г.д. Агульным матывам зьменаў у адукацыі стабільна застаецца неабходнасьць бюджэтнай эканоміі ў гэтай галіне, што прыводзіць да кансэрвацыі сацыяльна недапушчальнага нізкага роўню заробкаў пэдагогаў, да скарачэньня сеткі школаў, найперш вясковых беларускамоўных, да скарачэньня тэрмінаў навучаньня на сярэдняй і вышэйшай ступенях адукацыі, што фатальна ўплывае на якасьць адукацыі.

***У 2010 годзе ў Беларусі прыняты Кодэкс аб адукацыі***, як сьцьвярджалася, першы ў сьвеце (у іншых дзяржавах адукацыйную сфэру рэглямэнтуюць законы, асобныя для розных адукацыйных ступеняў). Была разгорнутая прапагандысцкая кампанія, у якой гэты факт падаваўся як сьведчаньне клопату дзяржавы пра адукацыю. Аднак Кодэкс аб адукацыі ўяўляе сабой мэханічную інтэграцыю ранейшых законаў і не фармулюе стратэгічных мэтаў адукацыі ў Беларусі.

Ані ў тэорыі, у тым ліку з заканадаўчага гледзішча, ані на практыцы адукацыйная сфэра Беларусі не выконвае задачаў узгадаваньня свабодных і адказных грамадзянаў, ня служыць умацаваньню нацыянальнай сьвядомасьці маладых грамадзянаў, не выпраўляе жахлівых наступстваў

расейскай і савецкай моўнай палітыкі, скіраванай на маргіналізацыю і зьнішчэньне беларускай мовы. Наадварот, уключэньне адукацыйных установаў у якасьці зьвяна ў аўтарытарную мадэль дзяржавы, сама арганізацыя адукацыйнага працэсу, якая не дапушчае самарэалізацыю асобы, зьмест гуманістычных дысцыплінаў кансэрвуюць несвабодную псыхалёгію homo sovieticus, атамізаванай асобы без нацыянальнай ідэнтычнасьці і грамадзянскай адказнасьці, якая ня можа быць суб’ектам дзеяньня і чыну, а толькі аб’ектам маніпуляцыяў.

Вышэйшая школа Беларусі, нават фармальна недзяржаўныя ўнівэрсытэты, цалкам пазбаўленая акадэмічных свабодаў і аўтаноміі. Няўрадавыя арганізацыі ды ініцыятывы, якія вядуць праграмы нефармальнай адукацыі, рызыкуюць стаць аб’ектам перасьледу ўладаў.

Апошнія рашэньні ўключыць дзяржаўныя адукацыйныя структуры Беларусі ў міжнародную адукацыйную прастору (Эўрапейская прастора вышэйшай адукацыі (ЭПВА), праграма “Эразмус” ды інш.) заўчасныя, выкліканыя палітычнай каньюнктурай і могуць ня толькі не наблізіць Беларусь да эўрапейскіх адукацыйных стандартаў, але, наадварот, надоўга закансэрваваць цяперашнюю сытуацыю.



# МЭТЫ, ЗАДАЧЫ І СПОСАБЫ РЭАЛІЗАЦЫІ АЛЬТЭРНАТЫЎНАЙ АДУКАЦЫЙНАЙ ПАЛІТЫКІ

## ВЯРТАНЬНЕ АДУКАЦЫІ Ў ПОЛЕ АГУЛЬНАГРАМАДЗКАГА ІНТАРЭСУ І ДЫСКУСІІ ЯК ІНСТРУМЭНТ УПЛЫВУ ГРАМАДЗЯНСКАЙ СУПОЛЬНАСЬЦІ

Зьмены да лепшага магчымыя толькі пры наяўнасьці грамадзкага запыту на іх. Таму ў цяперашняй сытуацыі экзыстэнцыйнае пагрозы будучыні беларускага народу і каштоўнаснага крызысу патрэбна ***ўзнавіць шырокую грамадзкую дыскусію*** пра рэальныя праблемы адукацыі, заканадаўчыя рамкі для яе ды місію адукатара.

**У гэтай дыскусіі павінны быць абмеркаваныя:**

- каштоўнасная роля адукацыі ды месца пэдагога ў грамадзтве,
- уплыў грамадзтва і арганізаванай грамадзянскай супольнасьці на фармальную адукацыю ды яе інстытуты,
- практычныя задачы грамадзянскай супольнасьці ў разбудове нефармальнай адукацыі і выкарыстаньні магчымасьцяў інфармальнай адукацыі.

***У выніку шэрагу круглых сталоў на тэму стану адукацыі Асамблея няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў выпрацавала наступныя прыярытэтныя кірункі грамадзкай дыскусіі ды ціску на дзяржаўныя структуры.***

# РЭКАМЭНДАЦЫІ



## І. ПАТРАБАВАНЬНІ ДА ФАРМАЛЬНАЙ АДУКАЦЫІ

### *Агульныя патрабаваньні*

**1.** ***Дзяржаваторчая роля адукацыі па-беларуску*** на ўсіх узроўнях — ад дашкольнага выхаваньня да вышэйшай школы і пасьлядыплёмнай адукацыі — як найважнейшага інструмэнту замацаваньня беларускай ідэнтычнасьці наступных пакаленьняў, зьберажэньня функцыянальнай прасторы беларускае мовы, аднаўленьня яе сацыяльнай прэстыжнасьці, трансьляцыі нацыянальных эстэтычных каштоўнасьцяў.

**2. *Самаарганізацыя ўдзельнікаў*** адукацыйнага працэсу (паўнамоцныя школьныя рады, бацькоўскія камітэты, рэальныя настаўніцкія прафсаюзы, студэнцкае самакіраваньне). Заканадаўчыя гарантыі для іх. Выбары дырэктараў школ і рэктараў ВНУ. Зьмена палажэньня аб Радах установаў адукацыі, якая ператворыць іх у рэальна выбарныя органы, незалежныя ад адміністрацыі. Недапушчэньне перакладаньня фінансавых абавязкаў дзяржавы на бацькоў школьнікаў (напр., праз школьныя наглядальныя рады).

**3. *Кардынальная зьмена зьместу навучаньня пэдагогаў.*** Грунтоўная падрыхтоўка і дадатковае навучаньне пэдагогаў ня толькі ў мэтодыцы і пэдагогіцы, але ў сацыялёгіі, правазнаўстве, псыхалёгіі, узроставай фізіялёгіі і г.д.

## *Абарона правоў пэдагога*

**1. *Абарона настаўніка*** ад сваволыства чынавенства. Заканадаўчая забарона прымушаць настаўніка выконваць працу, не зьвязаную зь ягонымі функцыянальнымі абавязкамі. Спыненьне хібнай практыкі палітычнага запрыгонь-

ваньня пэдагогаў (абавязковы ўдзел у выбарчых камісіях зь іх сумнеўнай рэпутацыяй, гвалтоўная падпіска на дзяржаўную пэрыёдыку, прымусовае членства ў псэўдаграмадзкіх структурах тыпу "Белай Русі" і г.д.).

**2.** ***Скасаваньне практыкі выкарыстаньня кароткатэрміновых кантрактаў*** для ціску на настаўнікаў, для звальненьняў з палітычных ды іншых прычынаў.

**3.** ***Аднаўленьне аўтарытэту пэдагога*** ў грамадзтве праз разьняволеньне настаўніка як творцы, магчымасьць выбіраць дапаможнікі, вышэйшае за сярэдні паказьнік у дзяржаве матэрыяльнае забесьпячэньне настаўніцтва.

**4.** ***Адмена ўсіх палітычна матываваных рашэньняў*** аб звальненьні пэдагогаў і магчымасьць для іх вярнуцца на працу.

## Сярэдняя адукацыя

**1.** ***Напаўненьне зьместам*** і рэальнае забесьпячэньне кампэтэнтнаснага падыходу ў навучаньні: вызначыць з удзелам шырокай грамадзкай дыскусіі, навукоўцаў,

пэдагогаў сьпіс базавых кампэтэнцыяў навучэнцаў, на які павінна арыентавацца школа; скарэктаваць школьныя праграмы, зьмест падручнікаў і мэтодык для ажыцьцяўленьня кампэтэнтнаснага падыходу.

**2.** ***Заканадаўчыя гарантыі навучаньня па-беларуску:*** у дашкольных і сярэдніх навучальных установах — у межах пешай даступнасьці для кожнага грамадзяніна, у вышэйшых і сярэдніх спэцыяльных навучальных установах — па ўсіх спэцыяльнасьцях, якія выкладаюцца ў Беларусі.

**3.** ***Адмена рашэньняў*** пра перавод беларускамоўных школаў на расейскую мову, пра закрыцьцё беларускамоўнага гуманітарнага ліцэю і яго філіяў — прасторы для апрабацыі новых праграмаў і падыходаў.

**4.** ***Выкасаваньне са зьместу адукацыі савецкіх*** і расейскіх імпэрскіх стэрэатыпаў, якія, пануючы ў масавай сьвядомасьці, у крызыснай сытуацыі ставяць незалежную дзяржаўнасьць Беларусі пад непасрэдную пагрозу. Аднаўленьне ў зьмесьце адукацыі каштоўнаснай і цывілізацыйнай лучнасьці з эўраатлянтычным сьветам.

**5.** ***Рэальнае самакіраваньне ў школах*** паводле міжнародных стандартаў, паўнавартасны ўдзел бацькоў, навучэнцаў і настаўнікаў у плянаваньні і ажыцьцяўленьні адукацыйнага працэсу і выбары дырэктараў.

**6.** ***Апераджальная рэформа пэдагагічнай адукацыі*** ды мэханізмаў прафэсійнага ўдасканаленьня настаўнікаў. Адкрытасьць беларускай адукацыйнай прасторы для станоўчага адукацыйнага, у тым ліку мэтадычнага, досьведу замежжа, стымуляваньне пэдагогаў, якія творча засвойваюць гэты досьвед.

## *Вышэйшая адукацыя*

**1.** ***Перавод вышэйшай адукацыі пераважна на беларускую мову*** выкладаньня, без чаго не падымецца прэстыж мовы ў грамадзтве і не замацуецца патрэба ў беларускамоўнай сярэдняй адукацыі, ня выгадуюцца беларускія эліты, здольныя адказна кіраваць дзяржавай і захоўваць яе незалежнасьць.

**2.** ***Спыненьне палітычных рэпрэсіяў*** супраць студэнтаў-іншадумцаў і скасаваньне наступстваў гэтых рэпрэсіяў.

**3.** ***Дапасаваньне сыстэмы вышэйшай адукацыі Беларусі*** да міжнародных патрабаваньняў, у тым ліку ў забесьпячэньні акадэмічных свабодаў.

**4.** ***З мэтай гарманізацыі вышэйшай адукацыі Беларусі*** са структурай і прынцыпамі ЭПВА неабходна:

- узгадніць двухузроўневую сыстэму вышэйшай адукацыі Беларусі з сыстэмай, заснаванай на двух асноўных цыклях — бакаляўрэаце і магістратуры;
- надаць асьпіранцкім і дактаранцкім праграмам статус адукацыйных праграмаў трэцяга цыклю вышэйшай адукацыі;
- надаць адукацыйным праграмам розную арыентацыю і розныя профілі, якія адпавядаюць усім індывідуальным і акадэмічным патрэбам, а таксама запытам рынку працы;
- пры складаньні макетаў навучальных плянаў узяць за аснову дыфэрэнцыяцыю вынікаў навучаньня і кампэтэнцыяў ЭПВА;
- узяць на ўзбраеньне Эўрапейскую сыстэму пераводу і назапашваньня крэдытаў (ECTS), Дадаткі да дыплёму (DS), а таксама апісаньне вынікаў навучаньня ў тэрмінах

кампэтэнцыяў для спрыяньня празрыстасьці і для ўзаемнага прызнаньня;

- структураваць адукацыйныя праграмы з пункту гледжаньня вынікаў навучаньня і кампэтэнцыяў на грунце кампэтэнтнаснага падыходу.

**5.** ***Дзейнасьць замежных адукацыйных інстытуцыяў і праграмаў,*** зарыентаваных на беларусаў, вартая падтрымкі толькі тады,

***калі ў выніку бальшыня выпускнікоў умацоўвае беларускую ідэнтычнасьць, вяртаецца ў Беларусь і ўкладае набытыя веды і навыкі ў яе пазытыўную будучыню. Гэта немагчыма без істотнай прысутнасьці беларускага каштоўнаснага складніку ў зьмесьце навучаньня.***



# II. ПРАПАНОВЫ ГРАМАДЗКАМУ СЭКТАРУ

## НЕФАРМАЛЬНАЯ АДУКАЦЫЯ

З увагі на зьніжэньне ўзроўню фармальнай адукацыі наагул і ўнівэрсытэцкай у прыватнасьці ў Беларусі неабходна падтрымліваць існыя і ствараць новыя праграмы, якія даюць магчымасьць сыстэмнай альтэрнатыўнай адукацыі й набыцьця сучаснай якаснай веды ўсім чальцам беларускага грамадзтва.

Паколькі місія нефармальнай адукацыі ў нашых умовах — запаўняць прабелы адукацыі фармальнай, то зьвяртаем увагу асьветніцкіх грамадзкіх арганізацыяў ды ініцыятываў на прыярытэтнасьць нацыятворчых каштоўнасных адукацыйных праектаў — курсаў, трэнінгаў, скіраваных на ўзгадаваньне адказных і нацыянальна сьвядомых свабодных грамадзянаў.

Толькі пры сьветапоглядным уплыве ды паразуменьні паміж адукатарамі ды навучэнцамі магчымае фармаваньне гарызантальных грамадзкіх сувязяў, а значыць, аўтаномнай, трывалай і дзеяздольнай грамадзянскай супольнасьці. Для дасягненьня такога ўплыву пажадана арганізоўваць нефармальную адукацыю ў фармаце "школаў", "унівэрсытэтаў" — г. зн. працягла ў часе.

## У БЕЛАРУСІ ПАЦЬВЕРДЗІЛІ СВАЮ ЭФЭКТЫЎНАСЬЦЬ НАСТУПНЫЯ АРГАНІЗАЦЫЙНЫЯ ФАРМАТЫ АДУКАЦЫЙНАЙ ПРАЦЫ ГРАМАДЗКІХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ ДЫ ІНІЦЫЯТЫВАЎ:

### *Для дзяцей школьнага ўзросту:*

- ***альтэрнатыўная хатняя школа*** клюбнага тыпу, якая спалучае адукацыйную і адпачынкавую функцыі, — канкрэтная мадэль працы зь дзецьмі, якая рэальна ажыцьцяўляецца ды вартая папулярызацыі;

- ***спаборніцтвы*** кшталту “Беларускага пяціборства”, якія дапамагаюць маладым людзям усьведаміць недахопы атрыманай імі адукацыі, спрабаваць актыўна мяняць гэты стан і, адпаведна, ціснуць “зьнізу” на настаўнікаў, што ў сваю чаргу прымушае настаўнікаў супраціўляцца неапраўданаму ціску “зьверху”.

## *Для пэдагогаў:*

- ***конкурсы*** кшталту “Ноўтбук для актыўнага настаўніка” для падтрымкі найбольш ініцыятыўных настаўнікаў зь цікавымі мэтадычнымі распрацоўкамі, даступнымі для ўсіх. Праца гэтая павінна быць сыстэматызаванай, а пераможцы маюць праводзіць курсы для зацікаўленых па распрацоўцы і выкарыстаньні новых мэтадычных матэрыялаў;
- альтэрнатыўныя ***віртуальныя мэтадычныя цэнтры,*** напр., на рэсурсе nastaunik.info.

# АДНАЎЛЕНЬНЕ БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІЧНАЙ СУПОЛЬНАСЬЦІ Й АДУКАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЙ ПРАСТОРЫ

З увагі на брак скансалідаванай акадэмічнай і культурнай беларускай супольнасьці, безь якой немагчымае фармаваньне сучаснага грамадзтва, — грамадзянскай супольнасьці ***неабходна рабіць захады дзеля яднаньня і пашырэньня гэткае супольнасьці,*** а менавіта:

- забясьпечваць інфармацыйную падтрымку доўгатэрміновым ініцыятывам, праграмам, арганізацыям ***(разнастайныя курсы й шоў беларускае мовы, Беларускі Калегіюм, Таварыства беларускай школы, Школа маладога журналіста, Лятучы ўнівэрсытэт, Школа маладога пісьменьніка, Народны журналіст ды інш.);***
- ладзіць супольныя імпрэзы, якія гуртуюць людзей з рознымі пунктамі гледжаньня, акадэмічным досьведам ды інтэлектуальнымі практыкамі, але з супольнымі каштоўнасьцямі: канфэрэнцыі, публічныя дыскусіі, публічныя лекцыі, адкрытыя школы, а таксама ствараць пляцоўкі й магчымасьці для нефармальных кантактаў.

З улікам неінтэграванасьці беларускае супольнасьці ў эўрапейскае культурнае й акадэмічнае жыцьцё — неабходна:

- запаўняць прабелы ў беларускай культуры, г.зн. уводзіць у беларускі навуковы і культурны ўжытак асноўныя тэксты эўрапейскае цывілізацыі, заахвочваць пераклады і ствараць грамадзкую запатрабаванасьць на іх;
- ствараць магчымасьці кантактаў беларускіх і замежных навукоўцаў, студэнтаў, культурных дзеячоў;
- пашыраць інфармацыю пра Беларусь у іншамоўных сфэрах (Вікіпэдыя, інфармацыйныя ды асьветныя сайты і г.д.), і па-беларуску пра сьвет, напрыклад, праз дні пісаньня вікіпэдыйных артыкулаў.

Беларуская інтэлектуальная супольнасьць ня мае пэрспэктывы бязь місіі і абавязку перад нацыяй і наймаладзейшым пакаленьнем. Філёзафы, культуролягі, палітолягі, антраполягі, псыхолягі павінны ствараць тэксты, даступныя разуменьню школьнікаў, якія б дапамаглі ім пераадолець кліпавае ўспрыманьне рэчаіснасьці і ўкладаць цэласную карціну сьвету празь беларускі пагляд на агульначалавечыя каштоўнасьці.

***Для падвышэньня канкурэнтаздольнасьці грамадзкіх адукацыйных ініцыятываў*** у сучаснай інфармацыйнай прасторы маюць прадугледжвацца:

- рэклямна-інфармацыйная стратэгія (мэтавая група павінна даведацца пра магчымасьць адукаваньня);
- трансьляцыі адукацыйных захадаў праз інтэрнэт;
- відэазаняткі (у запісе);
- online курсы (для працяглых адукацыйных праграмаў).

***Філёзафы, культуролягі, палітолягі, антраполягі, псыхолягі павінны ствараць тэксты, даступныя разуменьню школьнікаў, якія б дапамаглі ім пераадолець кліпавае ўспрыманьне рэчаіснасьці і ўкладаць цэласную карціну сьвету праз беларускі пагляд на агульначалавечыя каштоўнасьці.***



# МЭДЫЯАДУКАЦЫЯ – АКТУАЛЬНЫ ПРЫЯРЫТЭТ

Навучаньне дарослых і дзяцей арыентацыі ў мэдыйнай прасторы сёньня становіцца найважнейшым кірункам грамадзянскай адукацыі і забясьпечвае выніковасьць інфармальнай адукацыі.

Мэдыяадукацыйны кірунак пажадана разгортваць у абедзьвюх адукацыйных сфэрах — фармальнай і нефармальнай. ***Пры гэтым мэдыяадукацыя ў Беларусі павінна:***

- мець шырэйшы абсяг, чым у краінах з моцнай дэмакратыяй;
- быць сродкам ня гэтулькі падтрыманьня дэмакратыі, а яе пабудовы;
- мець каштоўнасны грунт.

У падкантрольнай дзяржаве сфэры адукацыі нельга дапусьціць фармалізацыі гэтага кірунку, а пагатоў яго дыскрэдытацыі праз падмену паняцьцяў, калі чалавека ня вучаць арыентавацца ў мэдыйнай прасторы для самастойнага прыняцьця рашэньняў, распазнаваць прыёмы прапа-

ганды і маніпуляцыі сьвядомасьцю, а прапаноўваюць гатовыя “правільныя” крыніцы.

У нефармальнай адукацыі трэба скарыстаць наяўныя магчымасьці доступу да міжнароднага досьведу мэдыяадукацыі і мадыфікаваць яго з улікам беларускай і рэгіянальнай спэцыфікі — процістаяньня агрэсіўнай антыдэмакратычнай ды імпэрскай прапагандзе. Гэта павінна і можа быць місіяй практычна ўсіх няўрадавых арганізацыяў ды ініцыятываў, якія займаюцца грамадзянскай адукацыяй.

Адукацыйныя ініцыятывы ды актыўныя працаўнікі фармальных адукацыйных структураў, у тым ліку і ўстановаў ***дадатковай адукацыі,*** могуць спрычыніцца да лябіяваньня мэдыяадукацыі і напаўненьня яе адэкватным зьместам ***у сыстэме дзяржаўнай адукацыі:***

- Стварэньне для Беларусі канцэпцыі мэдыяадукацыі, скіраванай на выхаваньне аўтаномнай асобы, якая крытычна ставіцца да мэдыя і ўмее распазнаваць мэтады індактрынацыі, у тым ліку праз мас-культуру;
- Укладаньне стандарту мэдыйнай адукаванасьці, які б вызначыў сьпіс абавязковых для вучняў кампэтэнцыяў, прадугледзеў адпаведныя зьмены ў праграмах, стаў арыентырам пры распрацоўцы настаўнікамі навучальных і пазаклясных заняткаў.

- Распрацоўка модуляў сэмінараў, трэнінгаў для адукатараў. Сэмінары і трэнінгі для пэдагогаў-куратараў дзіцячых СМІ і сацыяльных пэдагогаў, гатовых падвышаць сваю кампэтэнтнасьць ў гэтай галіне. Распрацоўка комплексу праграмаў для гурткоў.
- Папулярызацыя замежнага досьведу, прыдатнага для Беларусі (досьвед цяперашняй Расеі цалкам непрыдатны).
- Арганізацыя дыстанцыйнага навучаньня.

У тым ліку ***ва ўстановах дадатковай адукацыі дзяцей:***

- распрацоўка комплексу праграмаў для гурткоў, скіраваных на выхаваньне аўтаномнай асобы, якая крытычна ставіцца да мэдыя і ўмее распазнаваць мэтады індактрынацыі, у тым ліку праз мас-культуру;
- сэмінары і трэнінгі для пэдагогаў-куратараў дзіцячых СМІ і сацыяльных пэдагогаў, гатовых падвышаць сваю кампэтэнтнасьць ў гэтай галіне; праграмы і трэнінгі павінны ўлічваць міжнародны досьвед, але быць прыстасаваныя да беларускіх

умоваў “нулявога” ўзроўню мэдыяадукацыі дзяцей і пэдагогаў;

- разьвіцьцё кампэтэнцыяў у пошуку інфармацыі ў сучаснай прасторы дыгітальных сеткавых мэдыяў;
- пашырэньне ўплыву грамадзкага сэктару на дадатковую адукацыю ў справе мэдыяадукацыі дзяцей і моладзі. Разьвіцьцё рубрык мэдыяадукацыі на існых адукацыйных рэсурсах, стварэньне асобнага парталу мэдыяадукацыі.



# БАЦЬКОЎСКІ РУХ

Прапаноўваем:

**1.** Аднавіць каардынацыю бацькоўскага руху на нацыянальным роўні з мэтай стратэгічнага ўплыву на арганізацыю адукацыйнага працэсу і каштоўнасны зьмест адукацыі.

**1.1** Спрыяць нефармальнаму яднаньню бацькоў праз супольныя ініцыятывы, імпрэзы, сацыяльныя сеткі, публічныя абмеркаваньні актуальных адукацыйных праблемаў і г.д.

**1.2** Спрыяць перайманьню і трансьляцыі станоўчага досьведу фармальных бацькоўскіх структураў (апякунскіх і бацькоўскіх радаў, бацькоўскіх камітэтаў ды інш.) праз стажы бацькоў у падобных пасьпяховых структурах у краіне і за мяжой.

**1.3** Гуртаваць бацькоў для абароны дзяцей ад ідэалягічнай індактрынацыі з боку дзяржавы (прымусовага далучэньня да псэўдаграмадзкіх і псэўдапатрыятычных арганізацыяў тыпу Беларускай рэспубліканскай піянэрскай арганізацыі і Беларускага рэспубліканскага саюзу моладзі, так званых ваенна-патрыятычных, “казацкіх” клюбаў, дзе прапагандуецца мілітарызм і г.д.).

**1.4** Спрыяць разуменьню, што школа павінна выконваць адукацыйную функцыю (адстойваньне права дзяцей на адукацыю, забарона забіраць іх з заняткаў на спартовыя ды іншыя мерапрыемствы, не зьвязаныя з адукацыйным працэсам).

**1.5** Спрыяць бацькоўскай абароне настаўнікаў ад ціску з боку адміністрацыі.



# СТУДЭНЦКАЕ САМАКІРАВАНЬНЕ

Студэнцкае самакіраваньне (ССК) — рухавік рэформаў вышэйшай адукацыі. Дзеля пашырэньня ўплыву фармальных і нефармальных суполак студэнтаў на адукацыйную палітыку дзяржавы неабходна:

- структураваць адукацыйныя праграмы з пункту гледжаньня вынікаў навучаньня і кампэтэнцыяў на грунце кампэтэнтнаснага падыходу.
- разьвіваць нефармальную адукацыю й пашыраць яе мэтады ў межах і па-за межамі ВНУ;
- выхоўваць студэнтаў як паўнавартасных удзельнікаў грамадзка-палітычнага працэсу з правамі й абавязкамі і адказных грамадзянаў з нацыянальнымі каштоўнасьцямі;
- разьвіваць у студэнтаў крытычнае мысьленьне;

- адмовіцца ад навязваньня студэнтам адзінай ідэалёгіі ўнутры навучальных установаў, якая абумоўлівае існаваньне, у тым ліку, нефармальных групаў;
- пазбавіць БРСМ манаполіі на дзейнасьць унутры ўнівэрсытэтаў, адкрыць унівэрсытэты для дзейнасьці незалежных грамадзкіх арганізацыяў і ініцыятываў;
- адмяніць артыкул 193.1 Крымінальнага кодэксу РБ, які парушае права на свабоду асацыяцыяў, у тым ліку студэнцкіх;
- замацаваць заканадаўча правы студэнтаў на стварэньне і арганізацыяў самакіраваньня з шырокімі паўнамоцтвамі ва ўсіх сфэрах інтарэсаў студэнтаў, а таксама фіксаваны адсотак зь бюджэту ўнівэрсытэтаў на карысьць арганізацыяў ССК;
- гарантаваць права афармляць арганізацыі ССК у форме юрыдычных асобаў, што дасьць магчымасьць вальней функцыянаваць, прыцягваць дадатковыя сродкі для дзейнасьці, весьці адміністрацыйна-гаспадарчае жыцьцё, незалежнае ад унівэрсытэту;
- выключыць кантроль над ССК з боку адміністрацыйнага апарату ўнівэрсытэтаў;

- стварыць мэханізмы прадухіленьня ціску адміністрацыяў унівэрсытэтаў на лідэраў ССК; увесьці эфэктыўны мэханізм вырашэньня спрэчных сытуацыяў паміж студэнтамі й адміністрацыямі ВНУ (цяперашнія мэханізмы ў выглядзе прафэсійных зьвязаў альбо ССК не працуюць);
- прадугледзець і выканаць норму 25% прадстаўніцтва ў Радах унівэрсытэтаў законных прадстаўнікоў студэнтаў;
- стварыць нацыянальную асацыяцыю ССК Беларусі.
- увесьці пасаду студэнцкага амбудсмэна, які павінен займацца абаронай і агалошваньнем акадэмічных свабодаў сярод адміністрацыі ВНУ і студэнтаў.



# ЗАКЛЮЧНЫЯ ПАЛАЖЭНЬНІ І ВЫСНОВЫ

Каб унікнуць далейшага зьніжэньня адукацыйнага роўню беларускай нацыі, усім суб'ектам грамадзянскай супольнасьці, найперш асьветным і аналітычным грамадзкім арганізацыям, трэба выпрацаваць супольнае бачаньне рэформы сыстэмы адукацыі ды падвядзеньня пад яе заканадаўчае базы. Трэба мець на ўвазе, што вычарпальнае ўвасабленьне такой рэформы магчымае толькі пасьля аднаўленьня ў дзяржаве дэмакратычных свабодаў.

Не спадзеючыся на дзяржаву, аднак застаючыся адкрытымі для супрацы з усімі зацікаўленымі арганізацыямі і асобамі, правесьці работу для асэнсаваньня і аналізу сытуацыі, навуковага і эканамічнага абгрунтаваньня і стварэньня новай канцэпцыі разьвіцьця беларускай адукацыі, угрунтаванай на нацыянальным і сусьветным досьведзе.

Разумеючы найважнейшае значэньне нацыянальна-культурных каштоўнасьцяў, беларускай мовы, гуманітарных прадметаў у фармаваньні грамадзянскай супольнасьці, адказнай за лёс

краіны, у выхаваньні высокіх чалавечых якасьцяў, беларускага патрыятызму, выкарыстоўваць усе магчымасьці нефармальнай, фармальнай і дадатковай адукацыі, ствараць альтэрнатыўныя адукацыйныя асяродкі, укладаць дапаможнікі для настаўнікаў, бацькоў і шырокага кола адукатараў для перадачы маладому пакаленьню нацыянальна-культурнай спадчыны, запаўненьню прагалаў у школьных і ўнівэрсытэцкіх вучэбных плянах і дзяржаўных падручніках. Забясьпечыць належны кантроль за выкананьнем канстытуцыйных нормаў: права на бясплатную адукацыю, выбар мовы навучаньня (артыкулы 49 і 50 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь).

З мэтай набліжэньня беларускай адукацыі да сусьветных нормаў, росту яе прэстыжнасьці ў грамадзтве і сьвеце распрацаваць захады дзеля рэальнага, а не фармальнага дапасаваньня сыстэмы айчыннай адукацыі да Балёнскага працэсу, найперш у галіне забесьпячэньня акадэмічных свабодаў і студэнцкага самакіраваньня.

